Год III—1914. Травень. 23-я кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

1140517

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

Падпісная цана на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр.

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мецьня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Адрэс рэдакціі: Мінск Александроуская 25.

Год III—1914. Травень. 23-я кніжка.

# САХА
ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

## Пладазьмен.

### Праект № 5.

Усім добра знаная рэч, што ешчэ дагэтуль у нас—на Беларусі і Літве ёсьць не мала гаспадароў—мучанікоў і па вёсках, і па фольварках, каторые маюць свае палеткі параскіданы паміж чужой зямлі.

Гэта, так званые—шахаўніцы, каторые губюць, разумеецца, і гаспадара, і гаспадарку.

Гэтые парадкі маняцца скасаваць, але покуль гэтага прыжджэм, павінны мы ўсеж—ткі неяк гаспадарыць.

Калі палеткі параскіданы, прыходзіцца гаспадарыць на дзьве рукі: на бліжэйшым полі завесьці адзін парадак засеваў, на далейшым—другі.

Бліжэйшые палеткі дзелім на чатыры зьмены:
1. Жыта на гнаі.
2. Бульба.
3. Ярына с падсеянай на палавіне канюшынай.
4. Канюшына і папар.

Зазвычай бывае так, што мала ў каторага гаспадара хапае гною, каб завесьці ім увесь палетак; дык трэба старацца палажыць гной хоць на палавіне жытняга палетку, а другую яго часьць—падправіць фабрычнымі парашкамі.

Пры такіх варунках жыта, разумеецца, удасца, а па ўдалым жыце можна сьмела садзіць бульбу, толькі аржоньне павінна быць заарана на зіму, бо гэта так сама будзе спрыяць для узросту бульбы—як частка гною; а на тэй палавіне палетку, дзе жыта было бяз гною, а толькі на фабрычных парашкох—трэба ўсё ж ткі дадаць для бульбы засілку. Але каб на гэта менш патраціць гною, вазіць яго тады, як пакажуцца усходы бульбы. Робіцца гэта так: як бульба пабаранавана, а усходы яе будуць ужо такіе, што пара абганяць, развозіцца гной па полі і рнстрэсаецца на самые толькі радочкі абышоўшай бульбы і тады абганяецца. Гэткім парадкам гною дзеля таго менш ідзе, што кладзем яго толькі на шнуркі бульбы, а баразёнкі застаюцца пустые,—значыцца навозім ня ўсё поле гноям, а толькі мо‘ чацьвеатую яго частку.

Абагнаўшы бульбу, мы прыкрыем яе зьверху гноям, каторы

пасьля дажджоў будзе распушчацца і ўцягівацць у зямлю, трапляючы ні самые кусьцікі бульбы.

Гэткі спосаб гнаеньня бульбы, дзе скупа гною, вельмі карысны, асабліва на лягчэйшых землях, каторых у нас найбольш і ёсьць, бо там бульба не баіцца сьвежага гною, т. е. не загнівaецца і не траціць смаку.

Трэці палетак—гэта ярына. Ячменям, хоць і на бульбянішчы шмат поля ніколі не варта займаць: капрысная гэта добро і хоць іншым разам і вельмі ўдаецца, але палічыўшы колькі разоў пасьля завядзе, то рахунак выйдзе ня цекавы.

Лепш налегаць на авес і не шкадаваць яму лепшага мейсца, як гэта зазвычай у нас робіцца.

У ярыну—на тэй палавіне, дзе гной быў паложэны пад жыта,—ўсеяць канюшыну Чацьверты палетак, значыцца, і будзе на палавіне—канюшына, на палавіне—папар,—каторы можна выкарыстаць на пашу для жывёлы.

Можэ хто спытаецца, чаму ж ня сеяць усяго палетку канюшынай? А дзеля таго, што пры 4-х польным пладазьмене канюшына варочалася б на тое самае мейсцэ праз кожные тры гады, чаго яна ня любіць. Засеваючы-ж канюшыну на аднэй палове палетку, мы за іншым разам сеяць яе будзем на другой палове і гэткім парадкам яна будзе трапляць на тое самае мейсцэ толькі на сёмы год.

Пад жыта так сама трэба меняць парадак гнаеньня. На тэй палове, дзе мы першы раз клалі гной с хлева, а цяпер тут канюшына—дадаць штучных парашкоў, а на другой палове—дзе голы папар, а за першым разам былі фабрычные парашкі—выгнаіць гноям с хлева.

Гэткага парадку трэба усьцяж трымацца на бліжэйшых сваіх палетках, а ўраджаі напэўна паправюцца.

А што ж рабіць з дальшымі кавалкамі зямлі, дзе і гною трудна давесьці і паша для сваей жывёлы непадхадзяча—бо трудна перэгнацца?

А там радзіў бы завесьці зусім іншы парадак гаспадаркі. Засеяць усе дальш параскіданые кавалкі зямлі лубінам, а заараўшы яго—атсеяць жытам. На вясну—ў жыта ўсеяць сэрадэлю, каторую, сабраўшы жыта, калі добра разрасьцецца—скасіць на зімовы корм; калі-ж выйдзе слабейшая—заараць і зноў атсеяць жытам. Пасьля зборкі жыта—аржоньне заараць, на вясну пасеяць лубін і зноў у восень атсеяць жытам, у каторае так сама на вясну ўсеваць сэрадэлю і т. д.

Гэткім спосабам вядучы гаспадарку на дальшых палетках, абойдзецца яна таней, а прыспорыць шмат гною, бо разумеецца, з жыта найбольш бывае подсьцілу. Сьцягіваючы ж гной на бліжэйшые кавалкі зямлі, мы што раз болей і болей угноем іх і гэтым павялічым свае ўраджаі.

Трэба ешчэ толькі прыняць пад увагу, што жыта, як і кожная іншая збажына, сеяная праз даўжэйшы час на адным і тым

самым полі—выраджаецца, дык насеньне яго трэба зьменяць праз гады 3—4.

**А. Вілецкі.**

---

**Ад Рэдакцыі**. Рэдакцыя „Сахі“ прасіла-б нашых чытачоў каторые маюць сваю гаспадарку пры варунках выжэй апісаных, падзяліцца с спосабамі, ў якім парадку вядуць яны сваю гаспадарку.

---

# Мэханічная вырабка зямлі пад веснавые пасевы.

„Як пасееш—так і пажнеш“—адвечная праўда! Ось, приступаючы да пасеву ярыны, трэ ведаць, як найлепш прырыхтаваць поле пад яе.

Пад усе веснавые пасевы поле на вясну прыгатаўляецца, меней—болей аднакова, а сама падгатоўка да гэтага павінна быць зроблена ешчэ з восені, самае-ж важнейшае справа ў тым, каб як найбольш затрымаць вільгаці ў зямлі, каторая вельмі патрэбна для расьлін.

Зразу іншым можэ паказацца гэткая рупнасьць аб вільгаці ня толькі лішняй, але і сьмешнай, бо у гэткай мокрай зямлі, якой яна бывае на вясну, здавалося-б зусім лішне, але як дальш угледзім, то мусіць быць так, а не іначэй, каб спадзевацца лепшых ураджаеў.

Покуль пяройдзем да мэханічнай вырабкі зямлі, прыгледзімся сьперша аткуль вада зьбіраецца ў зямлі і якімі пуцявінкамі там яна ходзіць.

Кожнаму ведама, што вада на ральлю трапляе с хмараў: дажджом, сьнегам, або градам. Летніе дажджы ў нас бываюць рэдка, а калі і пройдзе дождж, то найчасьцей навальніцай, і амаль не ўся вада з яго зляціць у рэчкі, ці балоты, а вельмі мала астанецца ў ральлі.

Сьнегавая вада, калі яе не патрафіць выкарыстаць,—так сама мала ўвыходзе ў зямлю: грунт тады мерзлы, дык ня можэ прымаць да сябе вады, і пры тым—уся сьнегавая вада сплывае ў нізы, а на ральлі застаецца толькі ў лагчынках, ды ямках паміж баразён. Веснавая вада так сама сплывае ў нізы, бо тады ешчэ столькі ёсьць вады ў ральлі, што земля больш ня можэ да сябе прымаць.

Зусім іншая справа з васеньней вадой: земля за лета высахла; дажджы ў восень спакойные, дробненькіе, дык кожная ўпаўшая кропалька—ўваходзіць у зямлю, там на зіму замерзае і застаецца да вясны.

З зямлі-ж вада прападае дваякім спосабам: першы,—вада прасочываецца ў зямлю і напаткаўшы гліну, або які іншы пласт зямлі, каторы вады не прапушчае дальш, зьбіраецца ў лужыны, каторые паміж сабой лучуцца і цякуць пад зямлёй па уклону ў ніз; на самым нізе уклону—вада зноў выбіваецца на верх зямлі—гэта і ёсьць тое, што мы называем крыніцамі.

Другі спосаб высыханьня зямлі—гэта выпаровываньне вады сонцам і ветрам. Земля наша складаецца з большых і меншых часьцінак, каторые бываюць уселякай формы, так што, сабраные ў кучу, яны ня могуць прыстаць адна да другой так шчыльна, каб паміж іх ня было дзірачак; дзірачкі гэтые трапляючы адна проці другой робюць быццам трубку, а дзеля таго, што дзірачк бываюць рожнай велічы, то і трубачкі бываюць рожные—меншые і большые, каторымі вада прасочываецца ў ніз і падымаецца ў гару. Прасочывацца ў ніз вада можэ праз кожную трубачку, чы так званы—канальчык, а падняцца ў гару можэ толькі такімі канальчыкамі, каторых вокам нельга ўбачыць, бо такіе тонкіе, як валаскі і дзеля таго яны называюцца *валасаватымі каналікамі;* дык вось, як земля зьверху высахне, то вада з ісподніх пластоў падымаецца валасаватымі каналікамі ў гару, а там яе сонцэ і вецяр выпаровываюць, і так гэта работа ідзе да туль, покуль уся вада высахне.

Трэба аднак ведаць, што вада можэ падымацца валасаватымі каналікамі да самага верху толькі тады, калі гэтые каналікі цэлые ад самага нізу да самага верху, а калі ж яны паперарываны, то вада ўжо ў самы верх не падымецца, а дойдзе толькі датуль, дакуль валасаватые каналікі цэлые, і тут затрымаецца; як жэ гэтые каналікі перарываюцца?—а вельмі проста: самой воркай; падрэзаючы баразну, перэварачываем яе канцамі каналікаў у гару і гэткім парадкам перарываем лучнасьць каналікаў с падральльёй, чы як у нас кажуць—з жыўцом, дзеля гэтага баразна вельмі хутка высыхае і земля цяжкая—гліністая не разсыпаецца, а зьбіваецца у груды так цьвёрдые, што проста хоць сякерай іх разбівай, а земля лёгкая—пешчаная высыхае на попял.

У практыцэ, каб ральля не высыхала, мы яе барануем. Штож мы гэтым робім? баранаваньнем мы зрываем вярхі валасаватых каналікаў і прысыпаем іх тонкім пластам зямлі, каторы не мае ўжо лучнасьці з валасаватымі каналікамі і дзеля таго збаранаваны верх так скора высыхае, а не чэпляная бараной земля трымае вільгаць.

На ральлю з работай мы выходзім ужо тады, як земля абсохне і ня будзе мазацца за бараной, чы плугам, т. е. тады, як земля ня будзе мокрая, а толькі вільготная.

У зямлі мокрай усе каналікі—большые і меншые запоўняны вадой, у вільготнай жэ—вадой запоўняны толькі валасаватые каналікі, а ў большых каналіках знаходзіцца паветра і па іх кружыць; дзеля таго, выробляючы зямлю мокрую, мы будзем мець

больш страты, чым пажытку, бо мокрая земля замажэцца і паветра да сябе ня пусьціць, дык ня будзе рабіцца пульхнай, ня будзе валасаватых каналікаў, каторые нам патрэбны, каб па іх паднімалася вада з ніжніх слаёў, і ня будзе ў ёй паветра, патрэбнага для расьлін, так як і для чэлавека, без каторага расьліны жыць ня могуць: пасеяные зерняты або не абыйшоўшы згніюць, або усходы пажаўцеюць і таксама прападуць, бо ня будуць мець чым аддыхаць

Дык вось, кожны гаспадар павінен ня менш дбаць і аб тым, каб ня толькі затрымаць вільгаць у ральлі, але і каб лішнюю ваду адвясьці і хто ў восень не парабіў патрэбных для гэтага прагонаў, павінен зрабіць іх на вясну; чым хутчэй адвядзем лішнюю ваду, тым хутчэй ральля абсохне і нагрэецца, дык раней і сяўбу можна будзе пачаць.

На сколькі шкодна для ральлі лішніца вады, на столькі патрэбна шанаваць у ёй вільгаць, бо гэта вільгаць будзе служыць ня толькі на вясну, але і на лета, калі ў нас дажджоў бывае скупа і калі нашы пасевы смагнуць вады. Мала таго, што у тую пару расьліны будуць смагнуць, але будуць ешчэ яны і галадаць, бо колькі-б не даў гною, чы фабрычных парашкоў, то яны бяз вільгаці не распусьцюцца і не дадуць расьлінам пажытку.

Апошнімі часамі, замест бараны, пачалі ўжываць так званага—*волака*. Волак—гэта амаль тое самае, што і барана, толькі рама бяз зубоў, а работа яго такая: як пярэйдзем ім поле у здоўж воркі, то ён зраўнуе ральлю, разабье ўсе грудкі і зьдзярэ кажуру, каторая асталася пасьля зімы і гэтым зьніштожыць вярхі валасаватых канальчыкаў і затрымае вільгаць у ральлі.

Волак выгаднейшы ад бараны тым, што мы з ім можэм выйсьці на поле шмат раней, чым з бараной, бо ўжо тады, як толькі конь не праваліваецца, хоць у барознах стаіць ешчэ вада. Работа волака мяльчэйшая ад бараны, а значыцца плытчэй ён высушывае ральлю і прысьпешае усходы рожнага зельля, каторае мы пасьля—перад сяўбой зьніштожым спранжыноўкай, чы драпачом.

Бяручы пад увагу ўсё выжэй сказанае, мы—пры мэханічнай вырабцы зямлі на вясну—павінны вось чаго трымацца: 1) адвесьці с поля лішнюю вдду; 2) звалачыць як найраней усю ральлю; 3) засправжынаваць, чы здрапакаваць і забаранаваць пад пасевы, і 4) *поля на вясну не араць*.

Разгледзіўшы агульные правілы пры мэханічнай вырабцы зямлі пярэйдзем цяпер да дэтальных.

Найранейшая сяўба—гэта павінен быць авес. Авес даўжэй абыходзіць ад другіх зернятаў, пры тым, не так баіцца холаду і можэ бяз шкоды для сябе даўжэй лежаць у ральлі; аднак у зямлю надта мокрую і халодную аўса сеяць нельга, бо ён прападзе.

Зямлю пад авес прырыхтаваць трэба так: сьперша пусьціць волак, а пасьля, як толькі пакажэцца зельле,—выспранжы-

наваць, або выдрапачываць ральлю, каб выдзярці ўсё зельле і спульхніць ральлю; разсеяўшы авес, прыкрыць спранжыноўкай і забаранаваць.

Покуль скончым работу з аўсом, зямля ўжо на столькі абагрэецца, што можна будзе брацца і за бульбу. Трэба ведаць, што бульба патрабуе шмат цепла ў зямлі; ў мокрай і халоднай зямлі мацёры яе вельмі хутка гніюць. Пад бульбу гной найлепш вывясьці з восені і заараць, на вясну-ж поле звалачыць, выспранжываць, выбаранаваць, прайсьці значнікам баразёнкі 20—24 цаляў адну ад другой і садзіць бульбу.

Садзіць бульбу пад плуг, як гэта ў нас вядзецца, кепская работа, бо воркай высушываем зямлю і апрача таго трэба ведаць, што бульба вымагае зямлі пульхнай, а калі садзім пад плуг, то кладзем яе на цьвёрдую і ялавіну, дык ад гэтага способу саджаньня бульбы пара адрачыся.

Хто не шмат садзіць бульбы і не аплаціцца яму купляць значніку (хоць можна яго зрабіць і самому—саўсім танным спосабам), той павінен садзіць бульбу пад матыку, або рыдлёўку; хоць займе гэта работа больш часу, але ўраджай бульбы заплоціць з гакам.

Хто ў восень ня вывяз гною пад бульбу, таму прыдзецца шмат больш работы мець на вясну с прырыхтаваньнем поля. Трэба як найраней вывясьці гной і заараць: на цяжэйшай зямлі —плыцей, на лягчэйшай—глыбей; і с такім расчотам, каб покуль садзіць бульбу—гной угніўся-б. Прыараўшы гной, варта поле звалаваць валам Кабэльля [калі на гэту прыладу хапае], тады ральля, хутчэй уляжэцца і не так будзе высыхаць.

Перад пасадкай бульбы ральлю выспранжываць і збаранаваць. Спранжынаваць ня вельмі глыбока, каб не выцягіваць гною. Пасьля гэтак прырыхтованага поля, бульбу садзіць пад далоўнік, бо значнік выцягівае гной, або садзіць пад матыку, чы рыдлёўку.

Трэ памятаць, каб садзючы бульбу пад значнік, далоўнік, матыку, чы рыдлёўку, зямля была добра ачышчэна ад зельля, бо бульба сядзіць тады плытка, і баранаваць яе ўжо нельга,—каб не павыцягіваць яе на верх.

Мест баранаваньня, вельмі памагае вал персьцянёвы: прысьпешае ён усходы і губіць зельле. Звалаваць поле трэба або зараз за саджэньням, або некалькі дзён пасьля яе; як толькі пакажуцца усходы, то зараз трэба бульбу плытка абараць, каб не даць зельлю распленівацца і ўвесь дальшы даглёд бульбы—абарываць і аборываць.

Насенку—бульбу найлепш выбіраць сярэдняй велічы і цэльную, а ня рэзаць. Дробная бульба дае слабы прыплод, а рэзаная—загніваецца ў зямлі і бывае прычынай рожных хвароб бульбы. У каго-ж насеньня скупа і ня можэ абыйсьціся бяз рэзаньня, то павінен прынамсі ўважаць, каб рэзаць яе акуратна т. е.—ад верху—да пупка, бо тады разьдзелім бульбу на дзьве

роўные палавіны—роўнай сілы да усхожасьці. У поперак ніколі нельга рэзаць; ды пасьля рэзкі трэ каб бульбіна некалькі дзён палежала, каб раны ад рэзкі засохлі,—тады не так будзе яна баяцца гніцьця.

Пасьля бульбы, трэ брацца за ячмень. Пад ячмень поле павінна быць прырыхтавана, як і пад авес,—с тэй толькі рожніцай, што вырабка павінна быць ешчэ лепшай, а тады і часу маем крыху больш.

Пад ячмень—ральлю трэ разы са два выспранжыназаць і выбаранаваць, каб як найчысьцей зьніштожыць зельля, а найважней ад сьвірэпкі. Ячмень таксама сеяць пад спранжыноўку.

Лубін, пасеяны на заворываньне—сеяць трэба па заараным з восені полі і прыкрыць яго ня глыбока спранжыноўкай, бо глыбокага прыкрыцьця ён ня любіць.

Лубін на насеньне трэ сеяць крыху гусьцей, бо, рэдка пасеяны будзе расьці ў гальлё; а лубін на гной—на заорку—трэ сеяць радзей—тады ён больш разрасьцецца.

**С. Гольдінэр.**

---

# Пчэлярства.

## Спэкуляцыйнае падкормліваньне пчол.

Кожны пчэляр павінен рупіцца, каб на час глаўнага мёдабраньня выгадаваць як найбольшую сілу пчол у вульлёх.—Мать найболей чэрвюць, калі ў полі адкрыецца пажытак і пчолы пакнуць зносіць мёд. З знесянага маткай яечка, маладая пчолка вычдзе праз тры тыдні, а ешчэ праз два тыдні пачынае вылятацй на работу. Значыцца, ад хвіліны знесяных яечак праз пяць тыдняў будуць ужо рабочые пчолы

Кожны пчэляр ведае ў якім часе ў яго ваколіцы пачынаецца найбольшая зборка мёду; знана яму калі зацьвітаюць краскі на сенажаці, мёданосные дрэвы, белая канюшына і др., дык вось за пяць—шэсьць тыдняў прад гэтым часам трэба нарыхтаваць для сваіх пчол штучнае мёдабраньне, што у пчэлярскай практыцэ называецца: **спэкуляцыйнае падкормліваньне пчол.**

Робіцца гэта так: мёд, або цукар перэгатаваць з вадой і гэткай сытай падкормліваць пчол. Спачатку браць на адну часьць вады дзьве часьці цукру, або мёду; потым папалове, а ў рэшце дзьве часьці вады на адну часьць мёду, або цукру. Карміць праз 12—14 дзён: што дзень на нач па поўшклянкі на кожны рой. Раніцай—апарожняную пасуду прымаць з вульлёў. Найлепш мець на кожны вулей просты гліняны сподачак, каторы каштуе 2—3 кап.; наліўшы на гэткі сподак сыты, закрыць зьверху паперай, каб пчолы не тапіліся і падсунуць пад гняздо. Матцэ, заўважыў-

шы, што ў вульлі кожны дзень прыбывае сьвежы корм, здасца, што гэта адкрылася мёдабраньне ў полі і пачне зносіць вельмі многа яечак, с каторых праз пяць тydняў будуць рабочые пчолы. Інакш кажучы, мы матку штучным спосабам ашукуем і прымушаем, каб яна цяперака як найбольш чэрвіла.

Праз нейкі час, калі пчолы пачнуць даходзіць да большай сілы і астатні пляйстэр ад затвору акрыюць,—уставіць у сярэдзіну гнезда адну—дзьве рамкі с пчаліным воскам, каб матка мела дзе складаць яечкі. Праз некольки часу сіла прыбудзе у вульлёх ешчэ большая; пчолы зьвешаюцца пад пляйстрамі і пачынаюць ляпіць воск, тады дадаць па два пачаткі ад затвору, а як дацягнуць амаль не да нізу—зноў дадаць па два.

Калі знойдуцца слабейшые раі, трэба іх засіліць чэрвай і маладымі пчолкамі, бяручы па рамцы ў сільнейшых, каб да часу мёдабраньня зраўнаваць сілу вульлёў. У сільнейшых—вылягы падкрываць насьцяж.

Хто мае вялікую пасеку, то часьць сваіх пчол можа назначыць на раі, а часьць пакінуць на мёд. Каля пчол, празначаных для выкарыстаньня мёду, работа саўсім інакшая, чым каля тых, што празначаны на раі. Перш наперш скажу, як агранічыць чэрвеньне маткі ў вульлёх празначэных для мёду.

Агранічыць чэрвеньне трэба за тыдні два перад глаўным мёдабраньнем. Пад канец Маю, чы трохі раней, або пазьней, зважаючы калі ў гэтай ваколіцы пачынаецца мёдабраньне, бярэмся да гэтай работы. Каб агранічыць чэрвеньне, трэба мець бляхі адгарадовые. У вульлі адсовываем усё гняздо с пчоламі ў летнюю (парожнюю) часьць вульля і застаўляем пры рамках (ад вылятаў) бляху. Цяпер перагледаем у зімовай часьці вульля, чы не асталася там матка; бо трэба каб яна была ў адсунутым гнязьдзе за бляхай. Вымаем з за бляхі па аднэй рамцы і пчолы да чыста з іх абметаем, а рамкі пераносім на даўнейшае мейсцэ, і завешываем ў такім парадку, як былі перад гэтым. Пакідаем за бляхай толькі дзьве рамкі с пчаліным воскам. Бляху прысовываем да гнезда. Астаўшыеся за бляхай пчолы, скурыць дымам, каб хутчэй пераходзілі праз бляху ў гняздо. За бляхай на дзьвёх рамках астанецца матка. Трэба ёй дадаць ешчэ трэцьцю рамку с пчаліным воскам, каб мела дзе чэрвіць. Гэтые тры рамкі прысовываем да бляхі, закрываем затворам і пакуль што работа скончана.

Калі гэта пчолы сільные, то праз колькі дзён выняць ад маткі адну рамку с старшым чэрвям і пераставіць за бляху, а матцы—калі яна маладая—леташняя—уставіць адзін пачатак. Пчолы хутка яго будуць пацягаваць, а матка—ўсьлед зачэрвіць. Калі матка старая,—дадаць рамку з гатовым пчаліным воскам. Старые маткі вельмі ахвотна чэрвюць на трутнёў, а пчолы, ведаючы іх слабасьць да гэтага, пацягуюць трутнёвы воск. Рамкі, на каторых адгароджана матка, трэба каб канешна былі с пчаліным воскам.

Рамкі, у каторые асаджаны бляхі адгародные, павінны быць на ўсю глыбіну і шырыну вульля, каб пчолы не маглі нікудой іначай праціснуцца, як толькі праз дзірачкі у блясе. У бляхах адгародных дзірачкі высекаюць машынай на фабрыцы і з аднэй стараны навакол гэтых дзірачак астаюцца вострые беражкі; пчолы, калечуць сабе ножкі і крылцы, дык перад ужыткам трэба якім колечы жалезным цьвячком вострые канцікі у блясе згладзіць, зрабіць поўкруглымі—авальнымі. У слабых пчол ня можна агранічаць чэрвеньня, а толькі такіе, каторые акрываюць 12—15 рамак.

## Штучные раі.

Пад канец Маю з вульлёў, празначаных для размножываньня пасекі. робім раі.

*Першы спосаб*: Выбіраем два сільные раі напр. № 1 і № 2; ў парожні вулей № 3 устаўляем 6—7 пачаткаў; Ставім яго на мейсцы № 1, каторы тымчасам адстаўляем на бок. Вымаем рамкі і пчолы абметаем у вулей № 3; матку пераносім так сама ў № 3. Абмецяные пляйстры устаўляем назад у № 1 і ставім яго на мейсцы сільнага рою № 2, каторы адносім на новае мейсцэ і праз два дні даем вады напр. намачыўшы чыстую анучку і ўлажыўшы яе пад рамкі. Да гэтай работы трэба брацца ў добрую пагоду самым поўдням, як усе старые пчолы разлецяцца ў поле. Рой № 1, засіляны налётам з вульля № 2, праз 16—17 дзён дасьць рой, каторы мы асадзім у парожні вулей № 4. Гэткім парадакам мы з двух раёў зробім чатыры. Гэта найлепшы спосаб размножаньня пасекі. Раі будуць сільные, адбудуюць гнезды і занясуць мёдам.

*Другі спосаб:* маем напр. сільны рой № 5; ў пагодны дзень ставім побач яго парожні вулей з наклеянымі пачаткамі [рамак 6—7]; знашоўшы матку, пераносім яе з рамкай, на каторай яна сядзіць, у парожні вулей і ставім яго на мейсцы № 5, а гэты адносім на новае мейсцэ. Усе старые пчолы злецяцца ў парожні вулей да сваей маткі, ахвоча возьмуцца каля адбудаваньня гнязда, і назносюць патрэбны запас мёду для сябе на зіму. Аднесянаму рою № 5 праз два дні трэба даваць ваду, так як вышэй сказана. Добра было-б гэтаму асірочанаму рою дадаць матку; або маташнік, але як німашака ні аднаго, ні другога, то яны і самі заложуць маташнікі і вугадуюць сабе матку. Праз 24 дні ў гэты рой без маткі—уставіць хоць адну рамку з чэрвям і яечкамі. Так сама і штучные раі трэба рабіць с сільных пчол. Слабых не варта дзяліць. Лепей мець адзін сільны, як два слабые раі.

## Гадоуля запасных матак.

У гэтым часе, калі робюцца штучные, раі, трэба заняцца гадоўляй запасных матак. Ведама—запасная матка у пчэляра заў-

сёды прыгадзіцца: чы то рабіць штучные раі, чы заменяць старые маткі. Хто хочэ рупна вясьці сваю пасеку, павінен мець прынамся хоць адну запасовую матку на кожные 10 вульлёў.

Найлепей дайсьці да такіх матак, выховываючы іх у маленькіх вулейчыках, так названных—маточнымі. Вулейчык павінен быць зроблены с цалёвак, або і паўтарачак дошак з адным бакавым вылятам, на 3—4 рамачкі, кожная шырынёй 4 с пал. цалі, а выжынёй 8 цаляў. У адну рамачку штукуецца воск з мёдам, у другую—с чэрвям, а рэшта с чыстым воскам. У гэтак выпаўняны вулейчык усоваем с кварту маладых пчолак, узятых с сільнейшага рою. Праз гадзін 4—5 у адну рамачку, ў каторай сухі воск, трэба уштукаваць запечатаваны маташнік. Маташнік с пляйстру вырэзаецца вострым нажом разам с чэрвай, якая кругом яго знаходзіцца, хвормай трохкантовіка; такую-ж самую вырэзаем трохкантовую дзірку і ў рамачцы, ў каторую манімся уштукаваць маташнік; тады шчыльна укладаем у вырэзаную дзірку, зважаючы, каб ён у малым вулейчыку быў у такім самым палажэньні, ў якім быў дагэтуль у вялікім вульлі. З работай гэтай ня можна доўга марудзіць, злашча ў халаднаваты дзень, а зрабіць як найхутчэй. Робючы штучны рой, адзін вулей астаецца без маткі. Пчолы ў гэтым вульлі закладаюць маташнікі, часам 2, 3, 5 і болей. Гэтые маташнікі трэба і выкарыставаць на гадоўлю запасовых матак, аставіўшы толькі па адным у кожным вульлі.

Калі маташнікаў німашака, то выбраць сільны рой с старой маткай і асіраціць яго, значыцца, забраўшы матку, заставіць яго гадаваць маташнікі. Пчолы, узятые ад маткі з рою злоснага, кусьлівага—такіе самыя будуць і пасьля. Дык раю, лепш прымушуць гадаваць маташнікі пчолы лагодные і працавітые.

Маташнікі вырэзаюцца праз 8—10 дзён пасьля забраньня маткі з вульля, т. е. тады, калі ўжо іх пчолы запечатаюць. У выпасажаных гэткім парадкам вулейчыках, павыходзюць маладые маткі, заплоднюцца, і будуць у нас пад рукой на кожную патрэбу. Маткі трэба трымаць толькі да двух гадоў, бо пасьля яны плод трацюць, значыцца шмат меней нясуць яечак пчаліных і складаюць іх не акуратна, мінаючы каморкі [чашачкі], ды больш зносюць яечкі не заплодненые—трутнёвые. Рой каторы мае старую матку ніколі ня дойдзе да вялікай сілы.

**Медобраньне**. Па агранічэньні матак, у каго німашака рамак з гатовым пчаліным воскам, можна устаўляць у магазын, т. е. у тую часьць вульля, дзе маткі німашака, пачаткі хоцьбы с трутнёвага воску; матка цяпер ужо тут не зачэрвіць, бо агранічыўшы яе, гэта часьць гнезда (магазын) служыць толькі на заліваньне мёдам. Уставіўшы паміж цэлых пляйстраў 1—2 пачаткі, або як кажуць пчэляры, зрабіўшы шчэрбу, пчолы ўсімі сіламі стараюцца, каб як найхутчэй пачаткі дацягнуць, бо вельмі ня любюць яны у гняздзе шчэрбы—пустога мейсца.

Спусьціўшы 2—3 тыдні пасьля агранічэньня матак, калі ешчэ да таго пагода трывала добрая і пчолы магазын залілі

мёдам, трэба часьць рамак выбраць і выкруціць з іх мёд на цэнтрыфузе. Не варта чакаць, покуль усе пляйстры аж да нізу пчолы зальюць мёдам, бо хоць пчолы вельмі хвалёные працаўніцы, аднак зауважыўшы, што ў вульлі вялікі запас мёду, не с такой ахвотай працуюць, як пры малым запасе мёду. Забіраючы першы раз мёд з вульлёў, хоцьбы ешчэ далёка было да конца мёдобраньня, трэба загадзя помніць, каб абязпечыць пчолам запас мёду на зіму. Дзеля гэтага, выбіраем самых лепшых с пчаліным воскам 5—6 рамак і значым іх алоўкам, або крэйдай, бо гэтых рамак да цэнтрыфугі браць ня можна; яны, залітые мёдам і запечатаные, астануцца пчол на зіму.— Добра мець некольki рамак з воскам у запасе, злашча там, дзе пасека вялікая, тады работа пры забіраньні мёду з вульлёў ідзе шмат хутчэй.

Робім гэтак: атчыняем вулей, разсоваем рамкі, вымаем па аднэй, абметаем с кожнай да чыста пчолы, устаўляем да райніцы, а на мейсцы вынятых—устаўляем запасовые, якіе маем пад рукой і вулей зачыняем.

Да абметаньня пчол с пляйстраў добра ўжываць гусінае скрыдла, а калі такога німашака, то зьвязаць маленькую с тонянькіх бярозавых розачак мяцёлку і час ад часу мачаць яе ў вадзе. Каб не звабляць пчол запахам мёду. выкручываючы яго на цэнтрыфузе, найлепей гэту работу рабіць у якой колечы будыніне бліжэй пасекі, напр. у сыраварэнцы, або у сьвіронку.

Запечатаны мёд у рамках трэба вострым нажом аткрыць, інакш ён не аддзеліцца ад воску; нож часта мачаць у ваду, каб мёд за яго ня клеіўся; тады устаўляць рамкі ў цэнтрыфугу і закруціць але памаленьку, бо, закруціўшы адразу, скора мёд з другой стараны рамак сваім цяжарам будзе напіраць і можа папраломліваць воск. Калі ўжо с палавіна мёду аддзеліцца, рамкі перэвярнуць другім бокам і круціць ужо хутчэй, покуль увесь мёд не аддзеліцца з воску; потым ешчэ раз перэвярнуць тым самым бокам, што перш—на—перш і выкруціць да чыста.— Вукруціўшы ўсе прынесяные рамкі, устаўляем у райніцу, ды ідзем да другога вульля. Аттуль зноў выбіраем рамкі з мёдам, а на мейсцы іх устаўляем выкручаные на цэнтрыфузе і т. д. ажно покуль ня перэбярэм усіх вульлёў, празначаных для мёду.

Хто запасовых рамак з воскам не мае, выняўшы рамкі з вульля, можа закрыць дзірку ў магазыне падушкай, каб пчолы не разлазіліся па вульлі, а выкруціўшы на цэнтрафузе, тые самые рамкі уставіць на сваім мейсцы.

Мёд выбіраецца столькі разоў, колькі пчолы здалеюць заліць праз усё мёдобраньне,—2—4 разы. Цэнтрафугі ёсьць на адзін, два і чатыры пляйстры. Іншым разам бывае, што пры падбіраньні мёду знаходзім у магазыне заместа гэтага пляйстры зачэрвеные, гэта довад, што матка з за бляхі перайшла ў магазын і зачарвіла. Трэба пераглядзіць бляху, чы німашака ў ёй вялікаватай дзіркі праз каторую матка можа пралезьці, або можа каля сьцен вульля завялікіе шчэліны; зараз трэба гэтаму зараіць

а матку, знашоўшы, зноў засадзіць за бляху. Зачэрвеные пляйстры з магазыну выняць і занесьці на 1—2 дні ў халаднаватае мейсцэ, каб плод забіць, а тады зноў уставіць у вулей. Пчолы няжывые рабачкі павыкідаюць, а пляйстры зальюць мёдам. Гэтак робючы, як выжэй сказана, пчолы раіцца ня будуць, бо мы час ад часу, забіраючы мёд, а устаўляючы ім сухі воск даём ім работу і не пазваляем гультаявaць. Рабіць у гнёздах, чы у магазынах шчэрбы, а также часта забіраць мёд—гэта два найлепшые способы прыганяць пчол да працы.

*Загурье 15 Мая 1914 г.* **А. Волк—Левановіч**

# Канюшына.

## Чырвоная.

Гадоў трыццаць таму назад, ешчэ ня ў кожным дварэ сеялі канюшыну; цяпер—мала ўжо знойдзецца такога селяніна, каторы абышоўся б бяз канюшыны—гэтай вельмі важнай падмогі ў гаспадарцы.

Праўда, на саўсім убогай—пешчанай зямлі канюшына радзіць ня будзе, бо корні яе ідуць глыбока і там патрабуюць знайсьці сабе пажытак, але—дзе толькі вядзецца хоць крыху рупнейшая гаспадарка, там—падправіўшы зямліцу—можна спадзевацца і на ўраджай канюшыны.

А патрэбна канюшына ў нашай гаспадарцы ня толькі дзеля карысьці з яе добрага корму. але узбагачывае ешчэ яна нашу і зямлю дзеля таго, што мае прыродную здольнасьць захоплівать азот с паветру, каторы так патрэбны для нашых расьлін. Азот гэты пасьля канюшыны застаецца ў зямлі і падкормлівае тое збожа, каторае ідзе па канюшыне.

Гэтая самая прыродная здольнасьць канюшыны спраўляе і тое, што фосфару у зямлі ад яе ня ўбывае, а прыбывае. А толькі калію канюшына патрабуе для сябе шмат, і дзеля таго вельмі карысна для узросту канюшыны дасыпаць калію у штучных гнаёх: на цяжкіе зямлі—8—12 п. 30 прац. калійнай солі, а на лягчэйшые—18—20 п. каініту на дзесянціну.

Усеваюць канюшыну або ў азіміну, або ў ярыну; насеньня яе выходзіць на дзесянціиу фунтаў 40. Калі-ж канюшыну манімся

пакідаць на два гады, то лепш дадаваць да яе цімафейкі (меней —болей трэцьцю часьць); на другі год канюшына зазвычай бывае слабейшая, а цімафейка—як раз на другі год буйней разрастаецца, а корм с цімафейкі пажыўны і смачны, абы толькі не дапусьціць яе парэкрасаваць, бо інакш робіцца яна цьвердая, як дрот.

Калі засеваць канюшыну насеньнем куплёным, то з гэтым трэба быць вельмі асьцярожным: насеньне канюшыны, як вядома, дарагое, дык перакупшчыкі, гонючыся за выгоднымі заработкамі, стараюцца як мага рознымі спосабамі падмешываць да праўдзівай канюшыны розных іншых траў—зела, сходных па велічы і коляру з насеньнем канюшыны.

Гэткіе падмешкі шкодзюць, разумецца, ня толькі самому ураджаю канюшыны але бываюць вельмі шкоднымі і для поля —бо занечышчаюць яго, а знаная рэч, як у нас цяжка вызбыцца гэтых ворагоў кожнай збажыны.

Прадаюць ешчэ замест тутэйшай канюшыны—заграні чную, бо яна шмат таней каштуе, але і гэтага трэба высьцерэгацца, бо загранічная канюшына не падходзіць да нашых кліматычных варункаў і прападае.

А чаго найгорш трэба баяцца—то канянкі у канюшыне.

Канянка—гэта саўсім асаблівейшае зяло. Яна крадзе сокі з зямлі толькі покуль абойдзе, а пасьля адрываецца ад зямлі і, як вужака абкручываецца каля сьціблаў канюшыны, упіваецца у іх сваімі быццам зубкамі, высмоктывае увесь сок і гэтым толькі жыве. Само сабой, што пры гэткіх варунках канюшына разрасьціся ня можэ і гіне цэлымі плехамі, дзе канянка яе выедае.

Зьвесьці, раз завёўшуюся на полі канянку, вельмі трудна, бо нават скошаная і скормленая жывёлай, калі толькі усьпела перад гэтым завязаць насеньне, зноў вернецца на поле у гнаі, бо насеньня канянкі жывёла не перэтраўляе.

Нарваўшыся на канянку ў насеньні канюшыны, убачыўшы абходы яе, ратунак астаецца адзін: тые мейсцы, дзе паказываецца канянка—выпаліваць. Сырая трава, разумецца, сама па сабе гарэць ня будзе, дык трэба пырскаць газай.

Трапляюцца ешчэ дзіўнейшые, проста сьмеху варта, падмешкаі да насеньня канюшыноваго.

На фабрыках мэталёвых гузікаў, застаюцца непатрэбные рэшткі; гэтые рэшткі прапушчаюць праз спэціальные прылады, с пад каторых іх форма і коляр набіраюць выгляду насеньня канюшыны.

Гэткі гасьцінец—поля, праўда, не занечышсьціць, бо, разу-

меецца, не абойдзе, але гаспадару, каторы пагаліўся за таннай цаной насеньня—хіба карысьці дасьць мала.

Хіба німа чаго і гаварыць, якім трэба быць асьцярожным пры куплі насеньня канюшыны, каб хоць і не вялікіх, але дарма грошы не выкідаць: страта будзе ня толькі на кішэні, але і на пустым, або зялом заросшым,—палетку.

Хто мае пасьвіць жывёлу па канюшыне, павінен пільнавацца, каб не пушчаць яе туды саўсім галодную, а так сама не пушчаць тады, покуль ешчэ не апала раса, бо скаціна можэ прапасьці.

Не малы клопат бывае, калі канюшыну сеем на камяністым грунце—с касьбой тады беда. Дык вось, большые каменьні трэба пазьбіраць, а самые дробненькіе каменьчыкі, каб не перэшкоджывалі ў касьбе—прывалаваць хоць дома зробленым вальцам зараз пасьля разсеўкі канюшыны. Валец паўціскае ў зямлю каменьчыкі і касіць будзе гладка.

Вясной, як толькі земля падсохне так, што с коньмі можна выходзіць на поле,—канюшыну збаранаваць а сьвежа павыдзіраные каменьні—дзе яны ёсьць—зноў пазьбіраць.

Калі канюшына празначана толькі на ўкос, а не на насеньне, то добра яе пасыпаць гіпсам, лічучы па пудоў 20 на дзесяніну; можна пасыпаць і вапнай, але яе трэба даць у два разы больш чым гіпсу.

Гіпсуючы, чы вапнуючы канюшыну, празначаную на насеньне,—мы можэм папсаваць тым, што канюшына, пры гэтым спосабе засілку, бывае, разрастаецца вельмі густая і вялікая, дый вылегае, дык насеньне ад гэтакай канюшыны добрага спадзевацца нельга, бо яму не дасьць высьпець, як належа.

**Ян. О.**

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.**

US
1977·XI·8

Таней—як у другіх

**ЯЙКІ**

найлепшых нясушак (200 у год) кур: белых італьянскіх—дзесятак па 1 рублю; курапатчатых—па 75 к.; гамбургскіх—па 2 р. дзесятак.

Перасылка і ўпакоўка на рахунак пакупшчыка.

Адрэс: Сморгонь, Віленск. г. **А. О. Страшынскай**

---

**9-ы год выдавецтва**

**„Наша Ніва“**

Першая беларуская газэта выходзіць раз у тыдзень.

**Адрэс Рэдакціі: Вільня Віленская 29.**

Падпісная цэна на 1 год—2 р. 50 к., на 6 мес.—1 р. 25 к.

---

**„Маладая Беларусь“**

Літэратурные зборнікі. Вышоў 3-і сшытак ц. 1 р.

Адрэс: Пецярбург Васілеўск. востраў 4-я лінія д. 45 к. 16.

---

БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ

Мінск, Александроўская 25.

Прадае і высылае беларускіе кніжкі.

# „Лучынка“

Літэратурно-навуковы месячнік

## Беларускай Моладзі.

Выходзіць што месяц кніжкамі ад 32—48 страніц у кожнай падпісная цэна с перасылкай: на 1 год—2 руб.; на 6 м.— 1 р.; на 3 м.— 50 к. Цэна асобнай кніжкі—15 кап.; с перасылкай—17 к.

**Падпіска прымаецца с кожнаго месяца.**

Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цану налажылі на першы высланы нумар.

Адрэс Рэдакціі: Мінск Александроўская вул. № 25.

Рэдактар—Выдавец **А. Уласоу.**

---

3-ці год выдавецтва

# „САХА“

**Першы сельско-гаспадарскі Беларускі Месячнік.**

**„Саха“** на Віленскай гаспадарскай выстаўцэ ў 1913 гаду за стацьці свае атрымала **срыбны мэдаль.**

Падпісная цэна с перасылкай: на 1 год—1 р. 20 к.; на 6 м.—60 к. Цэна асобнай кніжкі 8 кап. с перасылкай 10 кап.

Гадавым падпісчыкам „Сахі“ высылаюцца дарма выпрабаваные і найлепшые гатункі насеньня збожа па 4 лоты. Але калі падпісчык, ці яго знаёмы (па яго просьбе) зойдзе сам у рэдакцію, то можэ атрымаць больш гатункоў насеньe.

Апрача таго Рэдакцiя дарма выдаець на мейсцы ў Мінску сваім гадавым падпісчыкам зразы фруктовых дрэў пэўных тутэйшых гатункаў. Яблыні: Антонаўка, Рэнэта летняя і Папероўка; ігрушы: асеньняя Вінёўка і раньняя асеньняя „Бураковая“ (сама ігрушка зьверху і ў сярэдзіне зусім чырвонаая).

Адрэс Рэдакціі: Мінск Александроўская вул. № 25.

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.**

**Падпіска прымаецца с кожнага месяца.**

„Саха“ і „Лучынка“ разам на 1 год—3 рублі.

# ВІЛЕНСКІ
## Сельска-Гаспадарскі Сындыкат

прадае па прыступных цэнах

**розные гаспадарскіе машыны**

Касяркі, конные граблі, сенасушылкі, жніваркі, снапавязкі і т. п. выпрабаваных зцгранічных і тутэйшых фабрык.

**Косы і сярпы**

найважнейшых загранічных і тутэйшых фабрык.

Адрэс: Вільня, Віленская, 9.

Віленскі Сельска-Гаспадарскі Сындыкат.



## МАЛАДЫ ЧЭЛАВЕК

шукае мейсца

**ЭКАНОМА, або ВІННІКА.**

Рэкомендацыі добрые. Даведацца ў Рэдакцыі „Сахі“, каторая яго знае.


Пры гэтым нумэры «Саха» разсылаем сваім гадавым падпісчыкам дарма насеньне розных гатункау збожа.

Праз почту Рэдакція шмат пасылаць ня можэ, бо перасылка каштуе дорага, але хто б зашоу у Рэдакцію —можэ атрымаць больш.

1914

# Таварыство

# „СЕРП“

Склад сельска-гаспадарскіх машын, прыладаў, насеньняі штучных гнаёў у Мінску губ.

**Прадае па сходных цэнах на час вясновых работ:**

| | |
|---|---|
| **Плугі арыгінальн. Сухені** № 0 умацованые | 5 р. 30 к. |
| „ „ „ № 1 „ | 7 р. 20 k. |
| **Талеровые бароны Дірынга**—8 талерак 16“ | 62 р. — |
| **Плужкі абганяць бульбу** . . . | 4 р. 25 к. |
| **Спранжыновые бароны Дірынга** на 9 зубоў— | 18 р. — |
| Сеялкі **раскідные Экерта** на 1 каня . | 86 р. — |
| **Жнівяркі Дірынга** на пару коні . . | 160 р. — |
| **Граблі конные Дірынга** . . . . | 50 р. — |

**Тамасоуку** [фабрычные гнаі] заграні́чнай маркі **„Альбэрт“** альбо **Звезда**

за 6-ці пудовы мех франко ст. Лібава

распускаючагося фасфорнага квасу:

| 14% | 15% | 16% | 17% | 18% |
|---|---|---|---|---|
| 2 р. 45 к. | 2 р. 55 к. | 2 р. 65 к. | 2 р. 75 к. | 2 р. 85 к. |

У Мінску 60 кап. на мех даражэй.